# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1705) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 15 СТУДЗЕНЯ 1989 г. ЦАНА 20 зл.




Фота З. Кадзевіча.

Пра нашых пісалі...

## „УЛІС" ПА-БЕЛАРУСКУ

У „Чырвонай змене" № 237 ад 15 снежня 1988 года паявіўся артыкул **Вітаўта Мартыненкі „Розум у няволі розуму" (чытаючы раман Дж. Джойса „Уліс" па-беларуску)**, выбранымі ўрыўкамі з якога хочам падзяліцца з нашымі чытачамі, тым больш, што аўтарам „Уліса" па-беларуску з'яўляецца наш сябра, сакратар ГП БГКТ **Янка Максімюк.**

„Гэты раман упершыню з'явіўся ў друку каля сямі дзесяткаў гадоў таму.

І вось першы поўны пераклад — на беларускую мову. Гэты подзвіг (а трэба ўлічваць і складанасць мовы Джойса, і хітраспляценні яго лагічных канструкцый, з аднаго боку, і адсутнасць матэрыяльных стымулаў для перадкладчыка — з другога) ажыццявіў супрацоўнік Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў ПНР Ян Максімюк.

Фізік па адукацыі (ён скончыў Варшаўскі універсітэт) і літаратар, грамадскі дзеяч па прызванню (ён быў адным з арганізатараў беларускага студэнцкага руху ў Польшчы, першым рэдактарам часопіса „Сустрэчы"), Ян Максімюк рыхтаваўся да гэтай працы многія гады (хоць сам яшчэ малады). І толькі дасканалае вывучэнне

(Працяг на стар. 2)

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАСЦІ

Субота, 17 снежня 1988 г. У памяшканні ГП БГКТ у Беластоку недзе ад гадзіны дзесятай пачало збірацца беларускае студэнцтва. У адзінаццаць меўся пачацца Першы З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў.

Антураж З'езда быў досыць сціплы: звешанае са столі белае палотнішча, на якім крывавіў надпіс „БАС", два мікрафоны, два гукаўзмацняльнікі, адзін магнітафон (для запісу дыскусіі), вось, здаецца, і ўсё. Ніякіх высокіх афіцыялаў не было, калі не лічыць доктара Янкі Зенюка, намесніка Ваяводскай рады ПРОН.

Тая самая зала, у якой месяцы два таму назад адбываўся XI З'езд БГКТ. Бюракратыя была зведзена да мінімуму: студэнты атрымалі мандаты, праграму з'езда і статут БАСа. Ніхто не здагадаўся прыкончыць прысутных зацяжной мастацкай часткаю (як было перад з'ездам БГКТ), а кароткая ўстаўка хард-рока з магнітафона хутчэй за ўсё дала сігнал пачынаць справу, чымсьці, скажам, даставіла слухачам артыстычныя ўражанні.

Нейкі вопыт у правядзенні такога мерапрыемства, як студэнцкі з'езд, у арганізатараў ужо быў. У сакавіку 1987 г. у Бельску-Падляшскім адбыўся з'езд беларускіх студэнтаў (ён таксама называўся Першым). Тады, між іншым, была прынята пастанова стварыць самастойную арганізацыю беларускага студэнцтва ў Польшчы пад назваю Беларускае аб'яднанне студэнтаў (БАС). Новыя сілы ўзяліся ажыццяўляць ідэю, якая ўзнікла ў 1981 годзе і не заглохла, нягледзячы на яе адміністрацыйную непрымальнасць у той час.

Трэба адзначыць, што пастанова з 1987 года адносна БАСа выклікала ў Згуртаванні польскіх студэнтаў вострую і непрыхільную рэакцыю. Да гэтай пары беларускія студэнты дзейнічалі пад шыльдаю Агульнапольскай рады культуры студэнтаў нацыянальных меншасцяў пры Згуртаванні польскіх студэнтаў. І вось ідэя БАСа была ўспрынята сярод польскіх (а таксама і украінскіх) калег, як праява беларускага сепаратызму. Пастанова з 1987 года была прызнана неабаснаванай. Каб не пакінуць ідэю БАСа і адначасова не ўскладняць адносіны ў




(Працяг на стар. 3)

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## УСПАМІНЫ БЫЛОГА ПІСЬМАНОСЦА

Прыпомнілася мне адно здарэнне з майго жыцця, аб якім я хацеў бы расказаць дзецям.

Было мне гадоў за сорак, калі я пачаў працаваць пісьманосцам на пошце ў Бабіках, што ў Шудзялаўскай гміне. Пачынаўся 1953 год.

У маім раёне на хутары жыў багаты гаспадар, малады яшчэ, жанаты, меў трое дзяцей — пяцігадовую дачушку, трохгадовага сына і адно дзіця яшчэ ў калысцы. Не буду называць гаспадара па прозвішчу, бо, можа, ён не хацеў бы гэтага. Гаспадар выпісваў некалькі газет, а я нагаварыў яго яшчэ, каб і для дзяцей нешта выпісаў з каляровымі малюнкамі. Ён паслухаў і выпісаў.

Мне ж вельмі спадабалася яго маленькая дзяўчынка. Яна была, як лялька, я глядзеў бы на яе і глядзеў. Цяжка нават апісаць, якая яна была харошанькая ды вясёленькая. Часам мяне проста цягнула зайсці на той хутар, каб на яе паглядзець. Часам прыносіў ёй цукеркаў, і яна потым ужо і сама мяне выглядала.

Аднойчы я прынёс гаспадару прысланыя па пошце грошы. Гаспадар узяў грошы, а мяне запрасіў да стала, паставіў гарэлку, а жонцы сказаў падаць закускі. Я падзякаваў за чарку, а паесці, — кажу, — паем, бо сёння яшчэ не снедаў, дык есці хочацца. Так за сталом я расказаў яму аб сваёй цяжкай працы і жыцці. „Каб у хаце быў дабрабыт, дык не хадзіў бы я з цяжкай сумкай пісьманосца па вёсках ці зіма ці лета. Цяжка без каня мясіць ботамі снег“. Пагасцяваў я так у іх і пайшоў.

На другі раз заношу я ім газеты. Дзяўчынка ўзяла газеты і ўвапхнула мне ў сумку нешта, закручанае ў паперу.

Выйшаў я на двор ды давай заглядаць, што там. А гэта дзве скібы хлеба з вяндлінай у сярэдзіне. „Што за дзіця добрае, — падумаў я, цешачыся неспадзяваным сняданкам. — Вось каб усе дзеці на свеце мелі такое добрае сэрца!“

І з таго часу амаль кожны раз мая лялечка ўпіхвала мне ў сумку чарговы сняданак.

Здарылася гэта зімою, на другі год маёй працы. Снегу навеяла, што цяжка ісці было, ды яшчэ з поўнай сумкай. Людзі паехалі на торг, бо быў гандлёвы панядзелак. Натаптаўся я і да маёй лялечкі не зайшоў, а меў для яе „Мурзілку“. „Не пайду, — думаю, — сёння, ногі ўжо баляць“. Але штосьці мяне мучае: „Ідзі, ідзі“. Паваloкся я на хутар. Гляджу, хата замкнёная, пастукаў у дзверы — цішыня. Заглянуў у акно — нічога не відаць, замерзлае яно. Дацягнуўся да верхняй шыбы і бачу: у хаце поўна дыму, а мая лялечка ляжыць на падлозе каля печы.

Давай я валіць у дзверы — не змог адчыніць. Тады выбіў шыбу і ўлез у хату. Найперш адамкнуў дзверы, выпусціў дым — і да дзяцей. А яны — як нежывыя. Паклікаў хуткую дапамогу, бо ў іх тады ўжо тэлефон быў. Праз паўгадзіны прыехалі

(Працяг на стар. 10)



**ЭМІЛЬКА МАРТЫНЮК З БЕЛЬСКА**

*Вучыцца ўжо ў другім класе і сёлета пачала вывучаць беларускую мову. Эмілька з маленства любіць слухаць, як мама ёй чытае „Зорку“ і іншыя часопісы і кніжкі. А ў гэтым годзе яна сама пачала чытаць „Зорку“. Нядаўна яна прыслала ў рэдакцыю сваю фатаграфію і малюнак, у якім расказвае, як дзеці любяць зіму. Дзяўчынка вельмі любіць коцікаў, мае сярод іх сваіх сяброў. Цяпер яна вельмі чакае зімніх канікул, калі будзе час пакатацца на санках, зрабіць снегавіка. Усе свае мары адносна гэтага яна пераліла на малюнак і прыслала, каб надрукаваць у „Зорцы“.*

(яч)

Фота Я. Мартынюк



**Першакласнікі з класа настаўніцы Марыянны Пугацэвіч (школа № 3 у Бельску) вельмі любяць школьны лялькавы тэатр, якім кіруе іх выхавацелька. Яны не толькі ўзялі пад апеку лялькі, якімі ўпрыгожылі свой клас, але ўжо і самі прабуюць удзельнічаць у працы школьнага гуртка.**

Фота Яніны Чэрнякевіч

**Уладзімір Дубоўка**

## ЗІМА І ЛЕТА

**Сустрэлася з Летам Зіма:
— Нідзе ў цябе ладу няма!**

**Як толькі з'явілася ты,
ўсе мкнуцца ў цянёк, пад кусты.**

**А ходзяць — нага за нагу!
Я нават глядзець не магу!**

**Вось я калі стану ізноў,
не ўседзіць ніхто ля кустоў.**

**Трушком пабягуць і дзяды,
не горш, чым якія малады.**

**Для моладзі будзе размах:
на лыжах бяжы, на коньках.**

**Згадзіся ты, Лета, са мной:
мілей жыць на свеце зімой!**

**Смялялася Лета ў адказ:
—Не знаю, мілейшы хто з нас!**

**Ніяк зразумець не магу:
чаму ад цябе ўсе бягуць?!**

---

**Васіль Хомчанка**

## СТАЦЬ ЧАЛАВЕКАМ

*Сын Ваня спытаўся ў бацькі:*

*— Што трэба зрабіць, каб стаць чалавекам?*

*— Пасадзіць яблыню.*

*Сын пасадзіў яблыню. Вырасла яблыня, падрос і сын. Прынёс ён бацьку яблыкі.*

*— Цяпер я чалавек?*

*— Яшчэ не. Збудуй дом і выгадуй добрых дзяцей, — сказаў бацька.*

*Прайшоў час. Сын збудаваў дом, прывёў у дом жонку. Нарадзіліся ў іх сын і дзве дачкі, выраслі. Але і на гэты раз бацька засмуціў сына:*

*— Сапраўдны чалавек — храбры і добры, — растлумачыў ён.
— А ці ж я магу, сын, сказаць, што і ты такі?*

*Неўзабаве грымнула вайна. Пайшоў Іван абараняць Радзіму. Чатыры гады ваяваў. Тры разы быў паранены, не раз знаходзіўся на валаску ад смерці. Выжыў, перамог ворага, вярнуўся дамоў. А вакол разруха, удовы ды сіроты. Іван трох сірот у сваю сям'ю ўзяў.*

*Бацька к гэтаму часу зусім састарыўся, занядужаў. З кожным днём яму рабілася горш і горш. Дні яго былі злічаны. Вось тады сын і сказаў бацьку:*

*— Я выканаў усё, што ты мне наказаў. Пасадзіў сад, і людзі цяпер ласуюцца маімі яблыкамі. Збудаваў дамы сабе і суседцы-ўдаве. Гадую шасцярых дзяцей. За радзіму кроў праліў і ні разу не паказаў ворагу спіну. Цяпер я стаў чалавекам?*

*Бацька павярнуў да Івана пасівелую галаву, паглядзеў на яго замутнелымі вачамі і сказаў ціха, як толькі пачуць:*

*— Спытай пра гэта цяпер у дзяцей сваіх. Што яны табе скажуць.*



## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЗАВІРУХА

**Музыка Э. Ханка. Словы Г. Бураўкіна.**

*Белы снег, белы снег, белы снег*
*— белы цень,*
*Белы снег, белы снег, белы снег*
*— белы дзень.*
*Ты куды мяне клічаш паслухай?*
*Завіруха мяне, завіруха...*
*На дварэ ні машын, ні людзей.*
*Белы снег, белы снег, белы снег*
*— белы след.*
*Белы снег, белы снег, белы снег*
*— белы свет.*
*За табой асцярожна ступаю*
*Засыпае нас снег, засыпае,*
*Патрапляю ў замецены след.*
*Белы снег, белы снег, белы снег*
*— белы клён.*
*Белы снег, белы снег, белы снег*
*— белы сон...*
*Як паходня, твой шаль ружавее.*
*На зямлі — я і ты і завея.*
*І вакол — ні вачэй, ні вакон.*

*

— Хочаш замуж, дачушка?
— Хачу, мамачка!
— А ці не рана, родная?
— Рана, мамачка, рана! Ты ж пральную машыну і спальны гарнітур не купіла.

*

— Мама, чаму Саламон быў самым мудрым чалавекам на свеце?
— Таму, што ў яго было многа жонак, якія давалі яму каштоўныя парады.

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

Галоўны сэнс і мэта сямейнага жыцця — выхаванне дзяцей. Галоўная школа выхавання дзяцей — гэта ўзаемаадносіны мужа і жонкі, бацькі і маці.

Васіль Сухамлінскі (1918-1970), педагог.

Невытлумачальны феномен прыроды: і ў дурняў цёс: зубы мудрасці.

### СПРЫТНЫ

Малы хлопчык прышоў з бацькам у краму. Прадаўшчык звяртаецца да яго:

— Выцягні руку, то насыплю табе арэхаў.

— Лепш дайце бацьку.

— Пахвальна так любіць бацьку.

— Не, толькі ў бацькі большая рука.

### АДКУЛЬ ЯМУ ВЕДАЦЬ

— Тата, а хто гэты чалавек на скрыжаванні?

— Рэгуліроўшчык.

— А чаго гэта ён рукамі размахвае?

— Паказвае, куды каму ехаць.

— Адкуль ж ён гэта ведае?

### ЧЫЯ КАРОВА ЛЕПШАЯ

Двое прывялі на кірмаш кароў прадаваць.

— Во ў мяне карова дык карова, — кажа адзін.

— Што за яна? — пытае другі.

— Па трынаццаць літраў малака дае.

— Знайшоў чым хваліцца! Мая і па дваццаць не скупіцца.

— А мая жонка ад каровы пасля ацёлу па дваццаць чатыры нацыркае.

— Цьфу! Детам мая да дваццаці сямі даганяе.

— К-хы, у ліпені? А трыццаць не хацеў ад маёй летам!

— А што яна дае?

— Як — што? Малако!

— Я так і думаў.

— А твая?

— Мая, даражэнькі, смятану.

*

Міліцыянер затрымаў аўтамашыну. За рулём жанчына.

— Вы не бачылі чырвонае святло?

— Чырвонае святло бачыла. Я вас не заўважыла.

**Аляксандр Елісеенка**

### БАБРЫХА І БАБЁР
**(Байка)**

*Ля рачной затокі ціхай*
*Сядзеў бабёр з бабрыхай.*
*Шапталіся, уголас размаўлялі,*
*Відаць пытанні важныя рашалі.*
*І тут раптоўна, як на ліха,*
*Так раззлавалася бабрыха,*
*Што пляснула бабра па носе,*
*Аж рэха ўдалеч панеслося.*
*Ты — баязлівец, ты — нязграба,*
*Ты не бабёр, а шэры трус,*
*Дайно машына сыну трэба,*
*А ты не дзьмеш сабе ў вус.*
*Мне адной, хоць разарвіся,*
*Прабівай і там, і тут;*
*Добра, што сябры знайшліся —*
*Сын улез у інстытут.*
*Дык і ты не паскупіся,*
*Не шкадуй лясных дубоў:*
*Просяць лесу, дай, не гніся,*
*Дачы ж трэба для сяброў.*
*У бабрыхінага сына*
*Васемнаццаці гадоў*
*На дварэ стаіць машына —*
*Дзве купіць яшчэ гатоў.*

*

*Не абвергнуць словы тыя,*
*Так было, і шмат гадоў:*
*Лапа лапу добра мые*
*Каля выгадных брадоў.*
*І бабрыхам і бабрам*
*І найлепшым іх сябрам,*
*Што жывуць у нашых хатах,*
*Трэба моцна даць па лапах!*

*

— Голай авечкі не астрыжаш.
— Пачакаю, пакуль абрасце.

*

— Кінь за сабою — знойдзеш перад сабою.
— Ты кінь, а я пагляджу.

— Нашто прадаваў сабаку — калі шкадаваў!

— Мой сабака не дурны, усё роўна дадому прыпрэцца.

*

— Якія грошы, такі і тавар.

— Гэта добра! Я табе ў два разы танней заплачу.

### ДАЮ РАБОТУ

— Для чаго вы жывеце, што вы робіце для грамадства? — спытаў суддзя рэцыдывіста.

— Як што раблю? Вы мяне здзіўляеце, ваша чэсць. Я даю работу паліцыі і суду.

### МАГУ ПРАГЛЫНУЦЬ

У час чарговай перапалкі ў кангрэсе тоўсты і высокі сенатар закрычаў свайму праціўніку — маленькаму і хударлявому чалавеку:

— Я магу праглынуць вас і нават не адчую, што нешта з'еў.

— У гэтым выпадку, — адказаў той, — у вас у жываце будзе больш мазгоў, чым калі-небудзь у галаве.

Дзецям да 16 год не дазваляецца.